

## Беларускасць —норма

Ёсць на Лідчыне мала каму вядомы ветсанутыльзавод. Знаходзіцца ён непадалёк ад вёскі Даржы, што раскінулася на паўдарозе паміж старажытнай Лідай і маладым горадам Бярозаўкай. Нядаўна мне давялося пабываць на згаданым прадпрыемстве. Вядома, я быў уражаны тым, што яно працуе, як і раней, у дзве змены і не зменшыла аб'ёмаў вытворчасці. А яшчэ ўразіла там пашана да роднага слова з боку дырэктара Аляксандра Калбыкі, яго паплечнікаў-спецыялістаў, рабочых. Усё справаводства вядзецца на заводзе па-беларуску. І гэта лічыцца нормай.

Кіраўнік працоўнага калектыву, мой зямляк з-пад Астрыны, вучыўся калісьці ў гэтым мястэчку ў сярэдняй школе імя Цёткі, і мне хочацца сказаць праз газету: «Дзякуй табе, Аляксандр Іванавіч, што дбаеш пра нашы беларускія карані!»

Болей бы такіх кіраўнікоў, як мой цёзка-зямляк!

**А.ЖАЛКОЎСКІ.**

## На Рэспубліканскай Радзе ТБМ

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

і не толькі ў Менску, а і ў абласных цэнтрах, і ў раёнах.

У дыскусіі і абмеркаванні кандыдатур прынялі ўдзел В.Адамчык (гал.рэдактар часопіса «Бярозка»), В.Арлоў (Віцебск), В.Башлакова (Гомель), В.Вячорка (Менск), А.Грыцкевіч (Менск), А.Глушко (Менск), Т.Гарэлікава (Полацк), А.Казловіч (Кобрын), М.Мацукевіч (Салігорск), В.Раманцэвіч (Менск), С.Суднік (Ліда), Я.Стапановіч (Менск), Л.Шлома (Менск), Э.Ялугін (Менск).

**Я.Стапановіч** выказаў шкадаванне, што ў выдавецтве Акадэміі навук робяцца спробы закрыць у «Весцях АН» Біялагічную серыю, якая выходзіць на беларускай мове. **С.Суднік** прапанаваў свой рэцэпт паляпшэння газеты: друкаваць у ёй красворды, гараскопы, матэрыялы па нетрадыцыйнай медыцыне і інш. **В.Вячорка** адзначыў, што трэба думаць вельмі сур'ёзна, як скарыстаць патэнцыял Таварыства, як далучаць да сваіх шэрагаў моладзь. Пакуль мы не станем прэстыжнымі для моладзі як арганізацыя, пакуль не даверым ёй рэалізоўваць праграмы Таварыства, у тым ліку і здабываць для яго гранты, да таго часу моладзь да нас не пойдзе. Трэба, каб ТБМ стала элітарным. **В.Арлоў** прывёў такі прыклад: калі ў мінулым годзе ў беларускамоўных класах горада вучылася больш за 600 вучняў, то цяпер іх засталося ўсяго 118. Парушаецца рэальная роўнасць моў, парушаецца Закон аб мовах, які ніхто не адмяняў. **В.Кузьміч** адзначыла, што беларускія школы павінны стаць прэстыжнымі, тады ў іх пойдуць вучні. Уратаваць школу — наша галоўная задача. Дырэктар Полацкай гімназіі **Т.Гарэлікава** расказала, што паколькі іхняя навучальная ўстанова прэстыжная, бацькі яе не цураюцца. Так, у першы клас сёлета паступіла дачка дырэктара банка. **Ніл Гілевіч** і ўсе прысутныя горача падтрымалі прапанову **Л.Шломы** правесці ў хуткім часе ў сталіцы вялікую навуковую канферэнцыю (сумесна са Скарынаўскім цэнтрам і Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына») на тэму «Дыскрымінацыя беларускай мовы на Беларусі», разгледзеўшы гэта пытанне ў гістарычным аспекце. На Радзе быў зацверджаны галоўны рэдактар «Нашага слова» Э.Ялугін.

**Пастанавілі:**

Сакратарыяту Рэспубліканскай Рады ТБМ улічыць усе канкрэтныя прапановы, выказаныя на пасяджэнні Рады, і неадкладна распрацаваць план практычнай дзейнасці на бліжэйшы час; ініцыіраваць падрыхтоўку і правядзенне навуковай канферэнцыі на тэму «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі», якую пажадана правесці ў бліжэйшы час.

**Ірына КРЭНЬ.**

## ТБМ — за помнік Івану Мележу

Набліжаецца юбілейная дата выдатнага беларускага пісьменніка Івана Мележа — 75-годдзе з дня нараджэння. Гомельшчына не забывае свайго славутага земляка, песняра Палескага краю. Гомельская суполка ТБМ разам з гомельскім аддзяленнем Задзіночання беларускіх студэнтаў і гарадскім аддзелам адукацыі звярнулася з адпаведным лістом да старшыні Гомельскага гарвыканкама С.В.Шапавалава, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Іван Мележ зрабіў значны ўклад у скарбніцу сусветнай літаратуры. Яго «Палеская хроніка» — візітная картка Палесся, Беларусі... Яго творчасць знаходзіцца ў шэрагу лепшых прадстаўнікоў нацыянальнай раманістыкі — Фолкнера ў амерыканскай, Шолахава ў расійскай... Ён перакладзены больш чым на 20 моў свету. На жаль, адзначаецца ў лісце, дагэтуль у Гомелі, у абласным цэнтры радзімы пісьменніка, няма помніка Івану Мележу. Узвядзенне помніка, папярэдні конкурс на яго, падкрэсліваецца ў лісце, стане значнай культурнай падзеяй, паспрыяюць умацаванню прэстыжу горада як важнага духоўнага асяродку рэгіёна, пасадзейнічаюць патрыятычнаму выхаванню моладзі».

**У.А.**




### У газетах

## Немка Ангеліка Штаўт піша п'есу пра нашу бяду

«З цікавасці да чарнобыльскай праблемы нарадзіўся сумесны праект Інстытута імя Гётэ і Маладзёжнага тэатра Беларусі, рэалізацыя якога будзе прымеркавана да дзесяцігоддзя катастрофы. Ангеліка Штаут, нямецкі тэатральны рэжысёр, да гэтага часу паставіць у Менску сваю п'есу з удзелам беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі... Адабраныя дваццаць пяць дзяцей і падлеткаў, якім і трэба будзе сыграць п'есу... Кінарэжысёр Ю.Хашчавацкі вядзе і відэазапіс праекта, каб фільм быў паказаны па каналах еўрапейскага ТБ».

*«Беларуская газета», № 9, 1995.*

## Што натуральна, тое прыгожа?

«...Настаўніца на ўроку актыўна жуе жуйку. Калі яна ёй пачынае перашкаджаць, прыклейвае на футарал акуляраў, а затым працягвае жаваць ізноў. На перапынку ж, калі непаслухмяныя дзеці шумяць і не выходзяць з класа, яна карыстае дзеля ўтаймавання знаёмы расійскі мат. У адной школе Паўднёвага Захаду настаўніца маладошых класаў у спякотнае надвор'е здымае спадніцу, застаючыся ў калготках. Каментуе пры гэтым свой учынак так: «Дзеткі, а што ў гэтым такога? Усё натуральна. А што натуральна, то прыгожа».

*«Беларускі час», № 51, 1995.*

## Аб дзекабрыстах і Беларусі

«Але мы, дзеці савецкай вульгарнай ідэалогіі, абавязкова патрабуем, каб Пестэль усё разумеў ужо тады, на пачатку 20-х гадоў XIX стагоддзя. Каб ён думаў, як мы. Беларусы не сталі нацыяй у поўным, грамадзянскім сэнсе гэтага слова яшчэ і сёння, а ўжо ёсць «патрыёты», незадаволеныя дзекабрысцкімі планамі стварэння Заходняй (Бугскай) дзяржавы з цэнтрам у Вільні. Паколькі задумвалася дзекабрыстамі федэрацыя. Яны ўжо тады павінны былі выступаць за суверэннасць Беларусі (якая яшчэ сама не ўсвядоміла, хто і што яна), за бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоню». Але, можа быць, будзем удзячныя дзекабрыстам за тое, што яны адчулі своеасаблівасць беларускага народа, прасякнуліся спачуваннем да яго... І ці не той жа Рылееў у захапленні пісаў польскаму паэту Нямцэвічу, аўтару знакамітых «Гістарычных песняў»: «Слаўныя імёны Касцюшкі, Малахоўскага, Калантая ды іншых знакамітых патрыётаў, нягледзячы на тое, што поспех не завяршыў іхнія высакародныя намаганні, ніколі не спыняць паўтарацца з душэўным трапятаннем, а дзеянні мужоў гэтых будуць заўжды для юнацтва дастойнымі ўзорамі. Насенне дабрыні ды свету пасеяны ўжо ў айчыне вашай. Хутка паспеюць цудоўныя плады іхнія». І, магчыма, калі б гэтым пладам сапраўды дадзена было лёсам паспець, Беларусь даўно ўжо была б незалежнай дзяржавай».

*«Имя», № 28, 1995.*

## Ёсць такое аб'яднанне — для маладых патрыётаў!

«Яшчэ ў арміі Ігар Глебец пачаў задумвацца аб тым, чаму латышы, летувісы, украінцы так ганарацца сваёй нацыянальнасцю, падкрэсліваюць сваё паходжанне, размаўляюць між сабой на роднай мове, а беларусы называюць усё гэта «нацыяналізмам»?

Пошук адказаў на гэтыя і многія іншыя пытанні прывёў Ігара ў Аб'яднанне Беларускай Патрыятычнай Моладзі, якое створана ў Маладзечне год таму пад кіраўніцтвам Сяргея Юркевіча.

Аб'яднанне нешматлікае, але ўжо заявіла аб сабе разнастайнымі мерапрыемствамі, акцыямі па адраджэнні беларускай культуры, мовы...»

*«Рэгіянальная газета», № 33, 1995.*

## Што ж вы, таварышы ветэраны?

«...У слуцкім Палацы культуры для інвалідаў і пажылых людзей адбыўся ўрачысты вечар. Удзельнікаў яго павіншаваў першы намеснік старшыні гарвыканкама В.Сітнік. Затым хор ветэранаў вайны і працы даў амаль 3-гадзінны канцэрт. Вельмі шкада, што на роднай беларускай мове прагучала толькі адна песня».

*Слуцкая прыватная газета «Дзіва», № 2, 1995.*

### Але!

## Не заўважыў, як зняважыў

Неяк нядаўна двойчы давялося паслухаць перадачу аб новай песні. называлася яна «Я — беларус». Нічога дрэннага не скажу пра мелодыю песні, словы ж Ніла Гілевіча — дык і зусім цудоўныя. Маладому кампазітару, на яго думку, удалося гарманічна спалучыць тое і другое. Адно, што прагучала дысанансам у перадачы, дык гэта адказы, якія пасля выканання песні даваў творца на пытанні карэспандэнткі.

— На мове мне размовлять тяжело, потому что даже родная школа не дала мне знаний, чтобы я мог размовлять на белорусской мове, — шчыраваў ён.

Не ведаю, у якой школе вучыўся хлопец, але, здаецца, не толькі «мове» яна яго не навучыла. Як па-мойму, дык ён залёгка калі не зняважыў, то пакрыўдзіў і школу сваю, і паэта.

Напэўна, 90 працэнтаў аднагодкаў кампазітара вучыліся ў расійскамоўных школах і па аднолькавых праграмах вывучалі беларускую мову. Але чамусьці адны сталі нармальнымі беларусамі, а іншыя — «скасабочанымі», скардзяцца на сваю моўную непаўнавартаснасць ды абвінавачваюць пры гэтым каго заўгодна, акрамя сябе.

Калі б я дазволіў сабе рызыкнуць напісаць песню на словы знакамітага паэта, мову якога дасканала не ведаю, то з дапамогай карэспандэнткі-інтэрв'ера запісаў бы свае адказы на стужку, адшліфаваўшы іх усё ж на мове паэта. А «пабалакаць» на той мове, якой ён «вымушана» карыстаецца, музыка мог бы пасля, там дзе гаворка ішла аб удалых шлягерах. Інакш, пасля такіх шчыраванняў не на «мове», неяк не па сабе было слухаць словы песні: «Я — беларус, і я шчаслівы, што маці мову мне дала...»

Штосьці фальшывае, кашчуннае было ў гэтым інтэрв'ю.

**А.БУБАЛА**
г.Верхнядзвінск



### Рэха!

## Чаго не бачыць камуніст Новікаў

«Новых» камуністаў можна павіншаваць: ім зноў удалося пераканаць мноства простых людзей, што гэта нехта, нейкія «дэмакраты» давялі краіну да поўнага развалу, а народ да жабрацкага стану. Хоць просты народ і ў часы СССР, калі прайдалі нафтадолары і бралі крэдыты ў капіталістаў, жыў ад палучкі да палучкі. І вось лідэр камуністаў у новай Вярхоўнай Радзе Васіль Новікаў дае карэспандэнтам інтэрв'ю, дзе абяцае зноў аднавіць СССР, толькі «падноўлены», нейкі там канфедэратыўны, быццам ад гэтага адразу з'явіцца рай на зямлі і пасыплецца манна нябесная. «Ну, што, лепей стала ад гэтай незалежнасці, аб якой мы крычалі апошнія 5 гадоў?» — кпліва кажа ён карэспандэнту «Звязды». Не растлумачваючы, праўда, хто тыя «мы», якія крычалі, і — ці была ад таго крыку якая карысць.

Але галоўнае, што ўразіла, як камуністы па-ранейшаму не хаваюць свайго зняважлівага стаўлення да чалавечых жыццяў. «У чымсьці і лепей, — кажа карэспандэнт. — Хлопцы нашы не ваявалі ў Чачні...»

«Чачня — гэта зусім іншая справа, — кажа кіраўнік камуністаў, — гэта доўгая размова».

Ну, вось, для таварыша Новікава ўсяго размова, а што нехта з бацькоў стаў бы атрымліваць замест сыноў цынкавыя труны ці маладых калек без ног-рук, гэта неважна.

Паміж тым, беларускія «товарищи» вырашылі не звяртаць, здаецца, увагі, што самі расіяне якраз няўрымслівых аматараў паглынання Беларусі Расіяй і аднаўлення СССР — «Кангрэса рускіх абшчын» не дапусцілі на выбарах у Думу.

**Ул.Ас.**

# «Я такая ёсць...»

*Гэтую маладзенькую дзяўчыну на Беларусі ведаюць практычна ўсе, хто цікавіцца беларускай эстрадай. Хаця са сцэны аб'яўляецца толькі адно яе імя, пяшчотнае беларускае імя — Алеся, салістка студыі «Сябры». Сёння Алеся — госця навагодняга нумара «Нашага слова». З ёй гутарыць карэспандэнт газеты Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.*

**— Алеся, мне вельмі падабаецца тое, што Вы робіце на эстрадзе, ваша беларускасць, ваша эстэтычнасць... Гэта спецыяльна прыдуманы імідж?**

— Я не магу сказаць, што маю эстрадны імідж. На сцэне я — такая, як і ў жыцці. Вельмі люблю сваю мову, сваю Беларусь, бо тут нарадзілася, тут вырасла. І каму, як не нам, маладым, адраджаць беларускасць? Часам даводзіцца чуць: чаго гэта ты ў народным касцюмчыку выступаеш, чаму спяваеш толькі на беларускай мове? Ды таму, што я гэта люблю, гэта мне падабаецца. І таму, што адвечнае, народнае ніколі не памрэ, заўсёды будзе патрэбна людзям. Мне хочацца, каб у нас больш ведалі беларускую мову, больш ведалі пра Беларусь. Стараюся працаваць дзеля гэтага. Зараз у маім рэпертуары з'явіліся абрадавыя песні. Гэтаму спрыяе і тое, што вучуся ў Беларускім універсітэце культуры на спецыяльнасці «рэжысёр масавых святаў».

**— Вы свядома паступалі на такую спецыяльнасць?**

— Так, і вельмі хацела паступіць. Нават на Купалле пускала вяночак па рацэ і загадвала: калі свечка на ім не пагасне, паступлю... Свечка не пагасла, і я паверыла ў сваю ўдачу... Як аказалася, не здарма. Люблю ўсё народнае — і вышыванкі, і песні... Слухала б іх ды слухала... І ў тыя песні, што выконваю на эстрадзе, спрабую ўнесці народныя элементы.

**— Але ж на эстрадзе часцей за ўсё паказваецца іншы вобраз спявачкі, я б сказала, увасабленне «сексуальнай агрэсіі»...**

— Што ж, і такое патрэбна. Аднолькавых людзей няма, кожнаму падабаецца сваё. Калі на сцэне будуць толькі прыгожанькія сцiпленькія дзяўчынкі, абрыдне. Аднаму гледачу хочацца чыстых і светлых пачуццяў, а другому і «сексуальнай агрэсіі».

**— А Вы не збіраецеся ў будучым арыентавацца на іншыя глядацкія густы? Як будзе выглядаць Алеся праз пяць год? Дзесяць?**

— Натуральна, не так, як цяпер. Я, канешне, буду заставацца сама сабой, але ж не магу, скажам, у трыццаць год іграць ролю дзяўчынкі. Не хочацца прынцыпова нешта мяняць, але ж я сама мяняюся... А песні на беларускай мове, любоў да роднай зямлі — гэта застанецца абавязкова.

**— Нядаўна ў адной расійскай газеце я прачытала цікавае апытанне, праведзенае сярод «зорак» расійскай эстрады: што важней для эстраднага спевака — голас ці душа? Чым трэба спяваць — голасам ці «душой»? Дарэчы, пасля даволі тыповых адказаў (а іх далі больш дзесятка «зорак») карэспандэнт з'едліва падкрэсліў, што з апытаных спевакоў сапраўдны голас мае толькі адна спявачка. А як адказалі б Вы на падобнае пытанне?**

— Канешне, калі і голас ёсць, і пяеш з душой, гэта вельмі добра. Але, ведаеце, можна мець добры голас, гучна спяваць, і ніхто цябе не пачуе, не зразумее. А можна ціха, але з душой праспяваць — і ўсіх усхвалюеш. Але ўтрымацца на эстрадзе, зусім не маючы голасу, на маю думку, проста немагчыма. Не магу сказаць, што ў нас на Беларусі сярод прафесіяналаў ёсць безгалосыя выканаўцы...

**— Цікава, хто шые Вам сцэнічныя касцюмы? Гэта вашы ўласныя прыдумкі?**

— Народныя касцюмы мне шые цэнтр беларускіх рамёстваў «Скарбніца», а іншыя, не стылізаваныя, Менскі дом мадэляў. У мяне ёсць свае мадэльеры. Але вырашае ўсё мой уласны густ. Я прыходжу і расказваю, якая ў мяне будзе песня і які касцюм, на маю думку, да яе падыходзіць.

**— У звычайным, побытавым, жыцці Вы — якая? Чым займаецеся ў вольную хвіліну — можа быць, шыеце, вышываеце? Гатуеце?**

— Некалі шыла... Але не вельмі добра атрымлівалася. Шчыра кажучы, не хапае цярпення. Гэта трэба ж сядзець, шоўчыкі выводзіць... Хочацца адразу сесці — і каб за пяць хвілін усё было зроблена. Але, канешне, так не бывае. Зрэдку і тарты пяку... Але гатаваць есці асабліва не цягне... Ды я не лічу гэта заганаю — калі займею ўласную сям'ю, прымусіць жыццё — усё навучуся рабіць, куды ж падзенуся! А ўвогуле, люблю ўсё прыгожае, люблю, калі дома ўтульна, цёпла, люблю, калі побач ёсць людзі, якія мяне разумеюць, якіх я разумею, з якімі мне цікава. І ўвогуле, люблю, калі ў мяне на душы вельмі спакойна.





**— Дарэчы, пра душу... Вы спяваеце цудоўную песню «Авэ Марыя». А ці верыце ў Бога самі?**

— Так, я веру ў сілу, якая над намі. Я хрышчаная. Не магу сказаць, што часта бываю ў царкве, але калі такая магчымасць ёсць, абавязкова заходжу. Многія скажуць, цяпер модна, дык яна і гаворыць, што верыць у Бога... Не, гэта вера — з маленства. У мяне бабулька веруючая, і калі я ў яе жыла, яна заўсёды вадзіла мяне ў царкву. Я не маю яшчэ пэўных, сфармаваных рэлігійных поглядаў, але ведаю, што за зло аддаецца злом, а за дабро — дабром.

**— Якія падзеі запомніліся ў адыходзячым годзе?**

— Найперш, многа цікавых паездак. Круіз па Міжземнамор'і, Амерыка, Польшча, Германія... Найбольш запомнілася наведванне Амерыкі.

**— Пэўна, сустракалі там старых знаёмых, што з'ехалі з Беларусі?**

— Сустракала, канешне. Кампазітараў, спевакоў, паэтаў... Мне таксама зрэдку задаюць журналісты пытанне: ці не збіраюся эмігравацъ, як ацэньваю ад'езд іншых? Пытанне неадназначнае... Я лічу, што тыя, хто ад'язджае за мяжу цяпер, едуць не дзеля сябе, а дзеля сваіх дзяцей, бо рэалізаваць свае творчыя магчымасці ў поўнай меры можна толькі на Радзіме. Калі мы былі ў Амерыцы, мне таксама рабілі шмат прапаноў застацца: і замуж, і па працы, і вучыць дзяцей беларускай мове...

**— Замуж не за мільянера?**

— І мільянеры былі... Але, па-першае, я яшчэ не вельмі сталы чалавек, і як гэта я ў свае васемнаццаць гадоў паеду ад бацькоў за акіян... Не, я так не магу. А па-другое... Канешне, мне падабаецца Амерыка, там адчуваеш сябе чалавекам, не баішся хадзіць па вуліцах, ведаеш, што ніхто цябе не зачэпіць, не аблае... Здаецца, пачынаеш прывыкаць да душэўнага спакою, але... Калі ўсё так спакойна і добра — хочацца... неяк гэта парушыць. Мусіць, мы ўжо не можам жыць без хваляванняў, без нашай мітусні, нашых клопатаў... Ведаеце, чаго мне хочацца? Каб тут было так, як там. Здаецца, зараз пачалі прыкрашаць наша жыццё на заходні манер — у Менску з'явілася шмат дарагіх прыгожых крамаў, элітныя клубы... Але гэта толькі бачнасць, бо хіба яны — для кожнага? Толькі для багатых, якіх у нас зусім нямнога. Вось калі добра будзе ўсім, ніхто не будзе пераязджаць у Амерыку. Канешне, гэтага вельмі цяжка дамагчыся, але я думаю, што калі такія маладыя людзі, як я, маё пакаленне будзе рабіць усё магчымае, нешта атрымаецца. Бо за намі, маладымі, будучыня.

**— Але ж Вы адчуваеце, што жывяце ў свеце, які ў прынцыпе аддзелены ад свету большасці Вашых равеснікаў? Мусіць, у побытавым плане Вам павінна быць лягчэй, чым ім? Ваш свет — свет мастацтва — зусім асаблівы...**

— Не магу сказаць, што неяк цураюся сваіх равеснікаў ці моцна адрозніваюся ад іх. У мяне шмат сяброў, якія, што называецца, «звычайныя» людзі, іх бацькі неўплывовыя і невядомыя... Але калі-нікалі адчуваецца, што ўсёткі я бачу ў гэтым жыцці больш, чым бачаць мае сябры. Па-першае, проста таму, што бываю там, дзе не бываюць яны, назіраю тое, што ад іх схаванае... Па-другое, чыста ў матэрыяльным плане магу дазволіць сабе тое, што не могуць дазволіць яны... Але ў душы я такая ж, як і ўсе васемнаццацігадовыя, «зоркавай хваробай» не пакутую, і стараюся, як магу, дапамагаць сябрам. І не толькі запрашэннем на свае канцэрты...

**— А з кім сябраваць лягчэй — з людзьмі «з народу» ці з мастацтва, з «зоркамі»?**

— Не бачу вялікіх адрозненняў. Для мяне ўсе людзі — аднолькавыя з «народу» яны ці з эліты... Кожны чалавек заслугоўвае ўвагі, да кожнага трэба адшукаць свае сцежкі. Але, канешне, ёсць у нас «зоркі», з якімі цяжэй размаўляць. «Зоркавыя хваробы», не вельмі вялікія, сярод іх трапляюцца...

**— А дзе будзеце Новы Год сустракаць?**

— Сёння гэта і для мяне загадка. Маем прапановы ў навагоднюю ноч працаваць, гэта значыць, выступаць. Такая ўжо прафесія эстраднага спевака. У нас няма выхадных, і святаў таксама няма. Хацелася б, зразумела, правесці гэтае свята, якое вельмі люблю, у коле сям'і, сярод сяброў...

**— А які ваш самы яркі ўспамін пра сустрэчу Новага Года?**

— Ёсць такі, яшчэ з дзяцінства. Я ўспамінаю гэта кожны Новы Год. Мае бацькі — артысты, таму бачыла я іх вельмі рэдка, асабліва на святы і асабліва бацьку. Але аднойчы ён сустракаў Новы Год з намі. Мне было гадоў пяць. У доме стаяла вялікая-вялікая зялёная ёлка (у нас у хаце кожны Новы Год жывая ёлка). Бацька браў мяне на рукі, і я вешала гірлянду пад столь... Памятаю прыцемак, нейкі чырванаваты, таемнае святло, і тата трымае мяне на руках... Дарэчы, учора я нагадала яму пра гэта: «Памятаеш, калі мы жылі яшчэ ў маленькай кватэры і разам сустракалі Новы Год?»...



**— У вас ёсць на радыё свая перадача. Раскажыце пра яе.**

— Яна называецца «Студыя «Сябры» прэзентуе». Выходзіць у эфір кожны панядзелак а палове дванаццатай. Створаная пры «Маладзёжным радыё», па ягонай жа прапанове. Ідэя перадачы належыць, канешне, Анатолю Іванавічу Ярмоленку, а рэжысёры і вядучыя — мы з ім удваіх. У нас вялікая пошта ад слухачоў. Асабліва цяпер, бо дасылаюць шмат віншаванняў. Наўрад ці змагу адказаць на кожнае асабіста, таму хачу праз вашу газету павіншаваць з Новым Годам, перадаць прывітанні і пажаданні ўсяго найлепшага ў Новым Годзе ўсім нашым слухачам. Вельмі прыемна, што прыходзіць столькі лістоў — нават адказаць на ўсе не можам. Вось я нашу з сабой у партфелі частку гэтай пошты... Дасылаюць свае вершы, музыку, песні. Мы стараемся па меры магчымасці, каб яны прагучалі ў нашай праграме.

**— А якія маеце прыхільнасці ў беларускай літаратуры?**

— Ну, як любой дзяўчыне, падабаецца любоўная лірыка. А яшчэ вельмі люблю «На ростанях» Якуба Коласа. Чытала гэтую трылогію і на беларускай мове, і ў перакладзе на расійскую. На беларускай мове спадабалася больш — хаця б таму, што даведваешся шмат новых слоў. Ведаю і сучасную беларускую паэзію. Гэта і таму, што знаёмлюся з творчасцю паэтаў-песеннікаў. Супрацоўнічаю з Нілам Гілевічам, Леанідам Дранько-Майсюком, Алесем Бадаком, Віктарам Шніпам, Уладзімірам Мазго, Іванам Ждановічам... Але чым чытаць іх вершы, найбольш люблю спяваць на гэтыя вершы песні.

**— Які прынцып адбору рэпертуара?**

— Часам прыносяць тэксты, якія мне не падыходзяць. Як гэта я буду спяваць, што я — «грэшніца» і да таго падобнае? Я не магу спяваць тое, што не разумею, што не адчуваю сэрцам...

**— Якія планы на будучы год?**

— Хочацца, канешне, нешта зрабіць на новым узроўні.. А галоўнае — хочацца пажадаць усім цярпення, і каб і ўсім, і мне, яго хапіла...

**— Паклоннікі адольваюць?**

— Ёсць і паклоннікі. Тэлефануюць, чакаюць на вуліцы... Нават заснавалі «фан-клуб», які назвалі «Жаўраначка». Яны прыходзяць на мае канцэрты, слухаюць мае праграмы, я з імі сябрую. У клубе шмат дзяўчынак і хлопчыкаў. Аднойчы я спытала пра дзейнасць іхняга клуба. Яны адказалі, што збіраюцца, выразаюць нататкі і артыкулы пра мяне з газетаў, часопісаў, слухаюць мае песні, вучаць іх, нават ставяць сцэнкі пра мяне... Лялькі робяць па маім вобразе... Людзі, якім я падабаюся — у асноўным, мае равеснікі, крыху старэйшыя, крыху маладзейшыя... Таксама я вельмі падабаюся бабулечкам. Даводзілася чуць: «Божа мой, якая дзяўчынка добрая! Вось і ў кароткай спадніцы — я так не люблю кароткіх спадніцаў. А яна ў такой — але гэткая сціпленькая, гэткая добранькая!» Прачулыя, цёплыя словы заўсёды прыемныя — ці іх гаворыць бабулька, ці малады хлопец.

**— А якім уяўляеце будучага спадарожніка жыцця? Гэта будзе чалавек мастацтва?**

— У мяне ёсць чалавек, з якім маю планы на будучае. Ён не са свету мастацтва. Але, калі быць побач са мною, трэба ездзіць на канцэрты, дапамагаць... Хочаш — не хочаш, а таксама зробішся чалавекам мастацтва... Пакуль у нас усё добра.

**— Дзякую за гутарку. Жадаю, Алеся, ад сябе і ад чытачоў «Нашага слова» ўсяго добрага ў новым годзе, творчага плёну. І няхай усе Вашы жаданні здзейсняцца.**

Згадкі

*Да 75-годдзя Таварыства беларускай школы*

# За долю і волю

Беларусы! Сённяшні стан рэчаў у нашым краі такі, што ў самы раз прыгадаць прыклад мужнага і самаахвярнага змагання за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, якое вяло на працягу 16 гадоў Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі (1921—1937). Таварыства з'явілася самай масавай арганізацыяй на тэрыторыі «крэсаў усходніх» (даходзіла да 30 тыс. членаў) і колькасна ўступала толькі Беларускай сялянска-рабочай грамадзе, якая налічвала больш за 100 тыс. чалавек. Паводле Беларускай энцыклапедыі дзейнічала прыкладна 500 суполак ТБШ. Аб'яднанне сялянскага насельніцтва Заходняй Беларусі вакол Грамады і ТБШ на тэрыторыі Віленшчыны, Гродзеншчыны, Навагрудчыны, Беласточчыны, Заходняга Палесся было адказам на каланізацыю і паланізацыю, якую праводзіў урад Пілсудскага ў Рэчы Паспалітай.

У «Дэкларацыі», апублікаванай у месячніку «Летапіс» (№№ 1—13, 1936) ад імя Таварыства і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, было заяўлена, што абедзве арганізацыі дамагаюцца для суайчыннікаў роднай школы і спадзяюцца на тое, што сам «беларускі народ, апіраючыся на прыродным праве да асветы ў роднай мове, а таксама на існуючых школьных законах, выкажа сваю цвёрдую волю ў справе дамагання роднае школы і ў працягу гэтага 1936 г. падасць школьным уладам дэкларацыі за сваю родную беларускую школу». У звароце «Да гуртоў, сябраў і сымпатыкаў ТБШ» ад імя Галоўнай управы падкрэслівалася, што Таварыства як арганізацыя, «якая мае на мэце працу над падняццем культурнага роўня мас, не займаецца ніякай палітычнай дзейнасцю, не знаходзіцца ў сувязі з ніякай палітычнай партыяй і не арганізуе ніякіх палітычных выступленняў, а згодна з яго мэтаю і статусам і далей будзе весці працу над падняццем культурнага роўню вёскі і яе нацыянальнай і грамадскай сведамасці». Далей пералічваюцца задачы, якія гэтыя гурткі і сябры ТБШ павінны выконваць. А менавіта:

«1) Узнаўляць старыя і арганізоўваць новыя гурткі ТБШ, пашыраць сваю арганізацыю, уцягваць у яе найлепшую перадавую частку вёскі, горада і мястэчка, ахвотную і здольную для культурна-асветнай працы, з'ядноўваць да гэтай працы мясцовую ідэйную інтэлігенцыю.

2) Дамагацца роднай беларускай школы, складаць школьныя дэкларацыі, падаваць факты з жыцця школы ў сваёй ваколіцы.

3) Адкрываць бібліятэкі-чытальні, Народныя дамы, ладзіць рэфераты, супольнае чытанне газет і кніжак.

4) Арганізоўваць драматычныя дружыны, хоры, аркестры, ладзіць прадстаўленні, канцэрты.

5) Ладзіць курсы граматы для непісьменных і малапісьменных, курсы беларусазнаўства, агульнаадукацыйныя, земляробскія, грамадскіх навук, каапарацыі і іншыя.

6) Змагацца з дэмаралізацыяй, весці самую вострую барацьбу з п'янствам.

7) Стаўляючы перад вачыма вялікія нацыянальныя і агульналюдскія ідэалы, якія могуць патрабаваць вялікіх ахвяр, трэба прывучаць да ахвяр малых, якія пад сілу кожнаму, а перад усім да сумленнага выпаўнення сваіх сяброўскіх абавязкаў...

8) Дзеля высвятлення агульнага палажэння нашай арганізацыі ўсе гурткі павінны прысылаць дакладную справаздачу з сваёй дзейнасці і мясцовых варункаў культурнай працы. Трэба таксама паведамляць аб закрыцці гурткоў і пробах іх ажыўлення. Мы мусім помніць, што асвета і культура ў руках беларускай вёскі і горада — магутнае аружжа ў барацьбе за сваю долю і волю, за далейшы лёс. Толькі культурны і асвечаны народ можа сам будаваць і тварыць сваю будучыню, каваць сваю долю. Толькі культурны і асвечаны народ перастане быць паслушнай прыладай у чужых і варожых яму руках. Дык усе свае сілы, усе здольнасці для ТБШ на культурна-асветную працу, фундамант нашай светлай будучыні».

Пісаліся гэтыя радкі ў неймаверна цяжкіх для існавання арганізацыі ўмовах, калі паўсюдна па розных выдуманых прычынах разганяліся суполкі ТБШ, а сама Галоўная ўправа знаходзілася пад пагрозай «завяшэння» або «развязання», як тады пісалася. Смяротнага ўдару не давялося доўга чакаць. Праз пару месяцаў пасля апублікавання гэтых матэрыялаў Віленскі гарадскі стараста выдаў пастанову аб ліквідацыі ТБШ, а таксама і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, які выступаў заадно з Таварыствам. Гэту пастанову зацвердзіў ваявода. А ў канцы 1936 г. Міністэрства ўнутраных спраў Рэчы Паспалітай Польскай зацвердзіла пастанову і Віленскага старасты і ваяводы аб забароне дзейнасці ТБШ («Беларускі летапіс», 1937, №№ 2—3 і №№ 10—11, раздзел «Наша хроніка»).

Аналіз дзейнасці ТБШ, якую можна прасачыць па месячніках «Беларускі летапіс» і «Летапіс», паказвае, што для яго асветная праца была той выдатнай формай, у якой вялася патрыятычная работа за адраджэнне нацыянальнай школы, у абарону сацыяльных і чалавечых правоў беларускага народа. У артыкуле «Шляхам асветы» (у тым жа нумары) аўтар, які схаваўся за псеўданім «Палляшук», папярэджвае аб страшэннай пагрозе асіміляцыі ў адносінах да беларусаў, «калі пануючая нацыя прымушае іх усёю сістэмаю дзяржаўных уадносінаў і парадкаў паступова выракацца самае падставы ўсялякага культурнага жыцця, г.зн. сваёй мовы, свайго быту, усяго свайго нацыянальнага багацця, бо толькі на нацыянальным грунце магчыма свабоднае, шырокае культурнае развіццё. Па-за нацыянальным жыццём не можа быць паўнаты прысваення і росквіту культуры, — даводзіць аўтар. — Калі чэхі падчас 33-гадовай вайны (у першай палове XVII стагоддзя), вельмі падтачыўшай іх духоўныя і матэрыяльныя сілы, згубілі сваю палітычную самастойнасць, пачаўся занепад чэшскай культуры, вельмі высокай на той час; нямецкая культура пачала вынішчаць усе праявы нацыянальнага жыцця чэхаў; апошнія трацілі свой агульны культурны здабытак і сваё нацыянальнае аблічча; самая мова чэшская з літаратурнай, дзяржаўнай спусцілася да роўня простае сялянскае гутаркі, а сярод «вышэйшых» станаў грамадства, моцна трымаўшыхся за свае прывілеі, і зусім пачала забывацца. Так цягнулася, пакуль не пачалося чэшскае нацыянальнае адраджэнне ў 1-й палове XIX стагоддзя — дзякуючы захаванню ў падставовых слаёх народа нацыянальнае сведамасці, нацыянальнага пачуцця. З гэтага відаць, — працягвае аўтар, — што спробы асіміляцыі падуладных народаў і накідванне ім чужой культуры напатыкаюцца заўсёды на рашучы адпор або пратэст народа — гэта другі няўхільны «закон» гісторыі, тым болей, што палітычная перавага якога-колечы народа не заўсёды ёсць адзнакай праўдзівай вышшасці ягонае культуры... Пратэст гэты з бегам часу пераходзіць у адкрытае штодзённае, можа нават малапрыкметнае змаганне «за сваё мейсца на жыццёвым піру» і, пры спрыяючых палітычных умовах, можа прынесці поўнае вызваленне ці адраджэнне народа.

Гісторыя не прызначыла вечнага панавання для адных народаў, вечнае паняволенне для другіх, або каб адныя карысталіся з усяго багацця духоўнай і матэрыяльнай культуры свайго веку, а другія служылі толькі «ўгнаеннем» для чужой культуры. Кожны жывы, здаровы, хоць і паняволены народ мае права і павінен усім напружаннем сваіх духоўных сілаў дабівацца выйсця на самастойную шырокую культурную дарогу жыцця, павінен прымаць удзел у будаўніцтве і ўзбагачэнні агульналюдскае культуры. Для аднаго народа гэты час настае раней, для другога — пазней, але для кожнага гэты час у сваю пару прыходзіць, калі толькі захавалася воля да жыцця, воля да адраджэння. Наблізіць, прыспяшыць гэты час — ёсць нацыянальны доўг кожнага пакалення».

Ужо гэты прыклад сведчыць, што ва ўмовах тагачаснай рэчаіснасці культурна-асветная работа сярод насельніцтва, якую праводзіла ТБШ, ператваралася ў вялікую патрыятычную справу, бо яна арганізоўвала беларусаў на барацьбу за нацыянальную школу, нацыянальную будучыню іх дзяцей, выхоўвала ў іх нацыянальную свядомасць і годнасць, бараніла ад паланізацыі і асіміляцыі, выкрывала рэакцыйную сутнасць школьнага заканадаўства і польскай дзяржаўнай палітыкі на «крэсах усходніх» наогул.

ТБШ мела Кантрольны савет, акруговыя і павятовыя ўправы з галоўным кіруючым органам — Галоўнай управай. Кіраўнікамі і актыўнымі дзеячамі ТБШ у розны час былі вядомыя дзеячы Б.Тарашкевіч, І.Дварчанін, П.Мятла, Р.Шырма, А.Лябедская, С.Паўловіч, М.Пяткевіч, а з пісьменнікаў М.Танк, Н.Арсеннева, М.Васілёк, А.Іверс, Хв.Ільяшэвіч, М.Машара і іншыя. У 1936 г. на месца старшыні Галоўнай управы ТБШ быў абраны С.Стацкевіч. Існавала арганізацыя на складкі сваіх сяброў.

*(Працяг будзе.)*

**Ірына КРЭНЬ.**

## ЗА РОДНУЮ ШКОЛУ!

## АДОЗВА

### Да Беларускага Народу.

### ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

**Цьвёрда і настойліва ідзе Беларускі народ да лепшае долі. Ня гледзячы на вялікія перашкоды, якія ляглі на дарозе, Ён будуе новае жыцьцё. Думка вызваленьня, думка жыць так, як і ўсе культурные народы жывуць, глыбака закаранілася ў народныя масы. Горад і вёска, сяляне і работнікі — ўсе сьведамыя Беларусы дружна ўзяліся да працы на роднай ніве.**

**Але каб збудаваць лепшую будучыню трэба здабыць сваю родную беларускую школу. Гэта разумеюць беларусы і ўжо ад многіх гадоў дамагаюцца сваей роднай школы.**

### ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

**Патрэбу вучэньня разумее кожны. Выпраўляць дзяцей у школу прыходзіцца ня толькі дзеля школьнага прымусу.**



Беларускае замежжа

*Уладзімір Дзехцярук жыве і працуе ў горадзе Ківінлі на Паўночна-Усходнім узбярэжжы Балтыйскага мора ў Эстоніі. Інжынер-чыгуначнік. Сярод разнастайных інтарэсаў — стварэнне беларускай суполкі «БЭЗ», розныя вандроўкі па Эстоніі, Балтыі і Беларусі, літаратурныя і гістарычныя даследаванні, у якіх паэзія і проза займае асобнае месца. Намаганнямі Згуртавання беларусаў Эстоніі выдадзены ў свет яго зборнік вершаў і апавяданняў. Летась 9 снежня адбылася прэзэнтацыя кнігі, з нагоды якой чытачы «Нашага слова» і віншуюць аўтара.*

**У.ДЗЕХЦЯРУК**

## Незалежнасць

Што такое для нас незалежнасць?
Гэта покліч магутных званоў,
Калі рук не сціскае жалеза
Невыносных чужых кайданоў.

Гэта веліч дзяржаўнага сцяга,
І вяртанне да свята дзядоў,
Гэта мужнасць, любоў і адвага
Што ў крыві нашай з даўніх гадоў!

Гэта гонар за мову радзімы,
Што не знікла, што зноў ажыла,
Перажыўшы халодныя зімы
Вынішчэння, пагарды і зла!

Гэта святы забытых угодкаў,
Што з гісторыі ў дзень наш плывуць,
Гэта памяць загубленых продкаў
І надзея ўсіх тых, што жывуць!

Гэта хлеб на бялюткіх абрусах
Ў чыстых хатах сясцёр і матуль
Для сыноў і дачок Беларусі,
Што раскіданы лёсам паўсюль.

Ўрэшце, гэта цудоўныя песні,
На Купалле, ці ў ноч Каляды,
Ці ў дзень волі, што зноў на прадвесні
Хутка прыйдзе да ўсіх нас сюды.

Гэта права жыць ў міры і марыць
Пра мяжу без калючых дратоў
І у хаце сваёй гаспадарыць
Без загадаў «старэйшых братоў»...

Вось такая яна, незалежнасць,
Нашай роднай зямлі набыццё,
Нашай мары былой непазбежнасць,
Што ўрываецца сёння ў жыццё!





# Каляда. Святы вечар

Прыйшоў на Зямлю Ісус Хрыстос — Сын Божы. Прынёс радасць людзям і вярнуў нам жыццё, якое чалавек страціў, калі саграшыў у раю. А мы цяпер, на радасныя святы Нараджэння Хрыстовага, прыбіраючы ёлкі, як бы вяртаем сарваны плод з дрэва пазнання дабра і зла. Пра тое, чаму мы прыбіраем ёлкі, гаворыць нам легенда.

Калі Праведны Іосіф з Богамаці і Богасынам уцякалі з Віфліема ў Егіпет ад праследавання Ірадавага, дык не раз трэба было ім шукаць сховак пад прыкрыццём дрэваў і сілкавацца іх пладамі. Святое сямейства ні разу не затрымалася пад ёлкай, таму што яна сваімі калючымі іголкамі і адсутнасцю прыдатных да спажывання пладоў не вельмі надавалася да гасціннасці, што выклікала вялікі жаль у ёлкі, выказаны яе смалянымі, жывічнымі слёзкамі. Але дзеля таго, што Ісус Хрыстос Сваім нараджэннем, як Богачалавек, прынёс на зямлю радасць і ніхто не павінен засмучацца ў гэтыя святыя дні, то Гасподзь блаславіў, каб у дні Свята Нараджэння Хрыстовага жывічныя слёзкі жалю на ёлцы замяняліся агеньчыкамі радасці. Каб ёлку ўпрыгожвалі прыемнымі для ежы пладамі. Каб яна сваімі калючымі іголкамі не адпуджвала ад сябе дзяцей...

Пра ёлку то мы ўжо ведаем. Але адкуль узялося слова каляда? Што яно значыць?

Каляда — гэта песня, у якой славім нованароджанага Хрыста. Каляда — гэта таксама і вячэра, якую ямо перад Нараджэннем Хрыстовым. І ўрэшце, каляда — гэта снапок неабмалочанага жыта, які ставіцца ў кутку пад іконамі. Тую каляду каля Бельска называюць таксама госцем. Адкуль жа ўзялося слова «каляда»? Больш за тысячу гадоў таму нашыя продкі не ведалі яшчэ праўдзівага Бога. Яны баяліся прыроды: ветру, грому, сонца, агню, бо не ведалі, хто гэтым усім уладае? Таму і выдумалі яны сабе багоў. Для сонца прыдумалі багіню Ладу. У снежні дзень стаецца штораз карацейшы. Нашыя продкі баяліся, каб сонца зусім не схавалася пад зямлёю, і таму, калі дзень зноў станавіўся даўжэйшы, яны ладзілі свята ў гонар багіні Лады. Сімвалам свята — знакам сонца было ў іх кола. Так са слоў «кола» і «лада» ўзнікла слова «коляда», «каляда».

Калі людзі пазналі ўжо праўдзівага Бога, яны пачалі спяваць у гонар нованароджанага Збавіцеля песні, якіх, па старым звычаі, назвалі калядкамі. А калядавалі дзеці, моладзь, старэйшыя... Цяжка ўявіць нам свята без калядnікаў, без зоркі... Ад Ражаства аж па свята Багаяўлення Гасподняга, калі асвячаюць ваду ў рэчках, калякнікі радуюць Бога і людзей...

Іншыя народы таксама славяць Хрыста ў калядках. Усе хіба ведаем ці чулі пра калядку «Ціха ноч». Узнікла яна больш за 100 гадоў таму назад у Нямеччыне. Словы калядкі перакладзены на многія мовы свету. Яна гучыць на беларускай мове.

Ціха ноч, святая ноч. Усё спіць,
спіць даўно.
Толькі маці святая ўся ж, ціха ў
яслях люляе дзіця.
Спі, сыночак малы. Люлі, люлі,
спі.
А ўгары, усё гарыць, серабром
зіхаціць.
Хор Анёлаў пяе пастухом, аб
дзіцяці, што будзе Хрыстом,
Ціхай песняй хвалы, славяць
Збаўцу зямлі.
Ціхая ноч, святая ноч у родны
край завітай
Людзям сум і тугу разганяй,
хай жа цешацца ў гэтыя дні
У ціхую, святую ноч, у ціхую,
святую ноч.

Шчаслівых Калядаў!

# «Чорная гусь» і кілішак «на штэмпель»



*У апошнім нумары мінулага года мы змясцілі матэрыял з кнігі Адама Мальдзіса «Беларусь XVIII стагоддзя ў люстэрку мемуарнай літаратуры» пра тое, як нашы продкі ладзілі свае святы, пра застольныя традыцыі беларускай шляхты, стравы, напоі і г.д. А тэма гэтая для праўдзівага беларуса такая цікавая і актуальная, што ў адной невялічкай нататцы яе не раскрыеш. Мы і самі захапіліся гэтым гістарычным даследаваннем спадара Адама Мальдзіса, а таму працягваем публікацыю ў першым нумары Новага года...*

А якія ж стравы падавалі на святочны стол? Найперш, канешне, чорную гусь, якую рыхтавалі так: «кухар паліў на вугаль вехаць саломы, выцягнутай, калі не было чыстай, з ботаў (салому напіхвалі ў боты замест шкарпэтак і вусцілак, якія з'явіліся пазней — рэд.), дабаўляў да гэтага лыжку або больш свежага мёду, даліваў да ўсяго паводле патрэбы якога моцнага воцату, мяшаў з той спаленай саломай, засыпаў перцам і імбірам — і тады ўся гуска станавілася чорнай». На святы варылі таксама «крупнік з паўгускамі, капусту з мясам і яблыкамі». На куццю ж абавязкова падаваліся «суп міндальны з разынкамі, боршч з вушкамі (разнавіднасць пельменяў), грыбамі і селядцом», «шчупак з шафранам, праснакі з макам і мёдам, акуні з алеем і дробна парэзаным яйкам». У часы барока лічылася, што ежа павінна не толькі насыціць, але і ўразіць гасцей сваім смакам, колерам, формай, сумяшчэннем несумяшчальнага. Спалучалі салодкае і кіслае, салодкае і горкае, кіслае і салёнае. У торт саджалі жывых птушак, якія ўзляталі ў час «віватў». На стол падавалі цэлых дзікоў, напоўненых унутры каўбасамі, індыкамі, курапаткамі, або доўгіх шчупакоў, «засмажаных у галаве, звараных у сярэдзіне і печаных у хвасце». Традыцыйнай сенсацыяй застолля быў «цэлы» каплун, засаджаны ў «бутлік» (для гэтага з каплуна здымалі скуру, запіхалі яе ў бутэльку, напаўнялі праз лейку малаком і яечнымі жаўткамі, а потым усё разам варылі ў кіпетні). Рыбу фаршыравалі свінінай, свіней — індычацінай, індыкоў — рыбай. Птаству, піша Кітовіч, «выкрыўлялі дзівачна ногі, крылы, галовы, рабілі фігуры, да стварэння Божага не падобныя, і такія стравы лічыліся самымі моднымі і густоўнымі».

А што ж ела беларуская шляхта на салодкае? «Цвёрдыя пончыкі, якімі можна было, трапіўшы ў вока, зрабіць сіняк, «тарты і французскія цесты», зробленыя на старым, «пазеляненым» масле і «жоўтым цукры». Сярэдзіну стала займалі падносы з «навамоднымі цукрамі». Яны ўтваралі «доўгую галерэю або паркавую алею, або гарадскую вуліцу — у залежнасці ад фантазіі кандытара». Па берагах тых падносаў «у маленькіх карафінках былі розныя мокрыя варэнні: вішні, парэчкі, агрэст, слівы чорныя, слівы зялёныя, грэцкія арэхі; а пры падносах на фарфурках ставілі варэнні сухія: у цукры смажаныя грушкі, міндаль, паліваны белым цукрам, і аніс, такім жа спосабам падрыхтаваны; цукровае марожанае, гэта значыць маса з цукру, смятаны, малінавага або іншых сокаў, ад холаду зацвярдзелая і ўмелай рукой кандытара ў дыні і арбузы сфармаваная; урэшце — жэле з мяснога расолу і цукру, бісквіты, макароннікі, пернікі і свежая садавіна». А яшчэ — «гданскае малако» (смятана з міндалём), «малако рэзанае» і «яешня з віном». Салодкія стравы ўпрыгожваліся вершаванымі надпісамі — павучаннямі і тостамі, якія выходзілі з-пад пяра «хатніх паэтаў».

Цяпер засталося пагаварыць пра напоі. Адам Мальдзіс піша наконт гэтай тэмы так: «Піла шляхта з самага рознага посуду — куфляў, кубкаў, конавак, шклянак, кілішкаў, келіхаў. Часам яны мелі вычварную форму. Для піва ўжываліся доўгія шкляныя палкі з вялікай булдавешкай на канцы — туды лезла кварта піва, куфлі з трубкамі, праз якія трэба было смактаць пітво, трубы, валторны, паўгарцавыя шклянiцы з трыма абручыкамі. Палкі, кубкі, трубкі рабілі прыкрасць не так самім пітвом, бо нямнога ў ім месцілася піва, як прыкрым спосабам піцця; п'ючы з палкі або трубкі, трэба было ламацца і выгінацца ўзад. Калі ж хто хацеў адняць ад вуснаў куфаль, а не ведаў, як заткнуць языком трубку, каб перастала цячы піва, дык тут жа абліваўся. Калі ж хто ўзяўся выпіць шкляніцу з абручыкамі, павінен быў абвясціць усёй кампаніі, да якога абручыка адным глытком вып'е; калі недапіў ці замнога выпіў, дык яму адразу далівалі». Што тычыцца таго, што непасрэдна спажывалі з куфляў ды келіхаў, дык, як сцвярджае даследчык, «раскашаваліся традыцыйным «пітным мёдам» — простым «ліпцом», моцным «паўтараком», «вішнёўкамі» і «маліннікамі», для вырабу якіх бралі палавіну мёду і палавіну ягад. Потым на ўласных броварах сталі гнаць гарэлку. Жытнёвая, паводле Ходзькі, называлася «хлебам штодзённым», пшанічная — «хлебам святочным». Сырэц пераганялі ў кубах «алембіках» з рознымі карэннямі, травамі і ягадамі і такім чынам атрымлівалі анісаўку, кмяноўку, палыноўку, цынамонаўку, настойку на персікавых костачках. З завозных гарэлак найбольш цанілі фруктовую ратафію і настоеную на карэннях крамбамбулю. Пілі іх маленькімі кілішкамі, закусваючы пернікамі або варэннем.



Пад канец нагадаем шаноўным чытачам, што быў у нашых продкаў добры звычай за святочным сталом — ставіць лішні прыбор «для паноў Загорскіх», г.зн. для нечаканага госця, якому — хто б ён ні быў — знойдзецца месца за сталом і прыветнае слова гаспадара.

**Падрыхтавала Л.Ш.**

# «Юнацтву» — 15!

4 студзеня выдавецтву «Юнацтва» спаўняецца 15 гадоў. За гэты час ім выпушчана амаль 1800 назваў кніг агульным тыражом звыш 150 мільёнаў экземпляраў. Гэта — нацыянальная і сусветная класічная літаратура для дзяцей і юнацтва, творы сучасных майстроў слова нашай рэспублікі, блізкага і далёкага замежжа, навукова-пазнавальныя кнігі, кніжкі-цацкі, календары. Выданні «Юнацтва» на 16 мовах свету вядомы чытачам 110 краін. Выдавецтва — удзельнік шматлікіх міжнародных кірмашоў і выставак — набыло значны аўтарытэт праз плённае супрацоўніцтва з 50 замежнымі фірмамі і выдавецтвамі. Толькі гатовымі тыражамі па заказах сваіх партнёраў выдадзена 150 назваў беларускай літаратуры ў перакладзе на замежныя мовы, агульны тыраж якіх перавысіў 8 млн. экземпляраў.

Папулярнымі сярод юных чытачоў сталі такія выдавецкія серыі, як «Зрабі сам», «Бібліятэка дзіцячага сада», «Знайка», «Бібліятэка навукова-пазнавальнай літаратуры», «Залаты ключык», «Бібліятэка прыгод і фантастыкі», «Школьная бібліятэка».

У 1994 годзе завершана выданне 15-томнай, не маючай аналагаў, «Бібліятэкі дзіцячай літаратуры» народаў былога СССР. Беларускія чытачы атрымалі выдатную магчымасць пазнаёміцца з лепшымі здабыткамі літаратур 15-ці рэспублік.

У набытку «Юнацтва» звыш 150 узнагарод: дыпломаў, медалёў, прэстыжных прэмій, у тым ліку і міжнародных, як за мастацкае афармленне і паліграфічнае выкананне, так і за арыгінальнасць, літаратурны ўзровень твораў. А тры кнігі (Грачанікаў А. «Валерка і лятаючая талерка», вершы; Кулакоўскі А. «Белы сокал», аповесці; Юрэвіч У. «Слова жывое, роднае, гаваркое...») адзначаны Дзяржаўнымі прэміямі Рэспублікі Беларусь.

Сёння галоўны клопат «Юнацтва» — выпуск праграмных мастацкіх твораў нацыянальнай і замежнай літаратуры, захаванне беларускамоўнай дзіцячай кнігі, выданне ўсяго лепшага ў сучаснай літаратуры, што працуе на адукацыю, на выхаванне актыўнай, прыгожай асобы.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, праблемы ў грамадстве, збядненне народа, іншыя складанасці, якія перажывае наша дзяржава, выдавецтва плануе на 1996 год выпуск 85 назваў кніг на роднай мове. Гэта — са 115 усіх выданняў на год. Так, у серыі «Школьная бібліятэка» — 28 беларускамоўных кніг. Яны прадстаўлены творамі старажытнай беларускай літаратуры, Я.Коласа, М.Гарэцкага, К.Чорнага, А.Кулакоўскага, Я.Баршчэўскага, І.Шамякіна, І.Навуменкі, С.Грахоўскага, Л.Геніюш, А.Жука, В.Казько, Г.Далідовіча, А.Карпюка, В.Карамазава, П.Місько, В.Іпатавай, Л.Украінкі, М.Кацюбінскага, Ш.Руставелі, Э.Ажэшкі, А.Міцкевіча, А.Бальзака, Ё.Гётэ, Ф.Петраркі, Д.Байрана, Д.Олдрыджа, Э.Хемінгуэя, Ф.Купера, В.Шэкспіра, Т.Мана, С.Цвейга. У гэтай жа серыі выйдзе томік твораў, прысвечаных К.Каліноўскаму, «Жыві ў свабодзе...»

Будзе прадоўжаны выпуск дзесяцітомнай «Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры», якая

(Заканчэнне на с.7.)

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

Вікторыя ЛЯШУК,
кандыдат філалагічных навук

# З гісторыі красамоўства на Беларусі



## «Вечнае навекі»

*Блажен сей ты, градѣ Полоцкый,*
*Такову лѣторасль возрастивый —*
*преподобную Еуфросинию...*
**«Жыціе Ефрасінні Полацкай».**

Восем стагоддзяў таму на Полаччыне жыла асоба рэдкага таленту і незвычайнай духоўнай моцы, якая сваёй культурна-асветніцкай дзейнасцю прынесла славу ўсёй Беларусі, стала яе апякункай, залічана царквой да ліку святых.

Свае здольнасці Ефрасіння Полацкая (да манаства Прадслава) прысвяціла духоўнаму ўдасканаленню, адраклася ад свецкага багатага жыцця дзеля жаданай, з юнацтва ўсвядомленай місіі — духоўнага і культурнага спадвіжніцтва. Яна не толькі перапісвала і перакладала кнігі, верагодна, і пісала іх. Стаўшы ігуменняй, Ефрасіння ў заснаваных ёю манастырах, статуты якіх складала сама, збірала здольных людзей дзеля перапісвання кніг. Там вучыліся грамаце і хрысціянскай маралі дзеці. Як адзначае сучасны даследнік У.Арлоў, аўтар кнігі пра Святую Ефрасінню, *«высокаадукаваная ігумення імкнулася пашырыць межы звычайнай праграмы. Апрача царкоўнаславянскае, юныя палачане вучылі грэцкую і лацінскую мовы, атрымлівалі звесткі па прыродазнаўству, рыторыцы, медыцыне. Вялікая ўвага надавалася гісторыі. Вучні павінны былі добра ведаць радавод дынастыі Рагвалодавічаў, важныя падзеі з мінуўшчыны Полацкай зямлі і ўсяго ўсходняга славянства... Вучні і насельнікі манастыроў атрымлівалі ад ігуменні выдатныя ўрокі красамоўства».*

Памяць пра Ефрасінню Полацкую захоўваюць рукатворныя помнікі — пабудаваныя яе намаганнямі манастыр, царква — у ёй няўмольны час літасціва пакінуў старажытныя, створаныя пры ігуменні фрэскі, на адной з іх, як мяркуюць навукоўцы, захавалася выява самой Ефрасінні. Засталася заказаная ёю для адной з цэркваў ікона, пад пазнейшымі яе напластаваннямі электронна-аптычныя прыборы высвяцілі першапачатковыя абрысы... Засталося і пісьмовае сведчанне пра самаахвярнае жыццё святой — «Жыціе Ефрасінні Полацкай» (Такія творы пісаліся толькі пра кананізаваных царквою свецкіх ці рэлігійных асоб). Гэты пісьмовы помнік, арыгінал якога датуюць XII—XIII стагоддзем, вядомы ў некалькіх пазнейшых спісах. Лічыцца, што напісаў «Жыціе...» пасля кананізацыі ігуменні яе сучаснік і, магчыма, вучань, які імкнуўся перадаць жывое слова Ефрасінні, яе павучанні пастве, дзе вобразна, пераканаўча, ярка — праз параўнанні, метафарызацыю, сімвалізацыю — сцвярджаецца неабходнасць кнігі, навукі, патрэба маральнага ўдасканалення.

З'яўляючыся прыкладам найбольш ранняга на Беларусі твора гістарычнай аратарскай прозы, «Жыціе...» аб'ядноўвае некалькі жанраў: мастацкую біяграфію, «хаджэнне ў святую зямлю» і «ўсхваленне». Стыль твора вытрыманы ў адзінстве з сюжэтам і задумай ярка і праўдзіва расказаць — для прыкладу ўсім — пра святую Ефрасінню.

Адпаведна канонам жанру, пасля просьбы божага блаславення і запрашэння чытачоў да ўважлівага стаўлення, аўтар апісвае найбольш значныя біяграфічныя падзеі — ад нараджэння і да заканчэння праведнага зямнога жыцця Ефрасінні.

Падкрэслена не толькі княжацкае паходжанне святой, але названы яе радавод. Яна — унучка Усяслава Чарадзея, чым можна растлумачыць яе няўрымслівасць, настойлівасць, сілу характару, розум. У «Жыціі...» распавядаецца, што з самага дзяцінства дзяўчына была здольная да кніжнай навукі — па ўсіх гарадах разышлася слава пра яе мудрасць і здольнасці; да таго ж была яна прыгажуняй... У далейшым апісанні аўтар імкнецца максімальна выкарыстаць стылістычныя магчымасці маналагічнай і дыялагічнай мовы — перадаць эмацыянальную напружанасць, глыбіню і складанасць пачуццяў: разважлівасць і спакойную ўпэўненасць самой Ефрасінні за свой выбар — стаць манашкай; ваганні і шкадаванне яе цёткі-ігуменні ў адказ на просьбу аб пострыгу; узрушанасць, разгубленасць і смутак Ефрасінніных бацькоў.

Унутраны маналог 12-гадовай князёўны Прадславы пададзены ў традыцыях дыдактычнай аратарскай прозы. У ім паказана маральная сталасць: *«...но духовным мечем отсекоша [адсеклі] отсебѣ плотскіа сласти, предаша [аддалі] телѣса своя на пост, и на бдѣние, и колѣнное поклоняние, и на земли легание, то ти [тыя] суть памятны на земли, и имена их написана на небесѣх...»*

Як бачым, строгасць, стройнасць, урачыстасць, самаахвярнасць перадаюцца вядомымі ўжо нам стылістычнымі сродкамі — шматзлучнікавасцю і разгорнутым аднародным радам: пералічаны формы рэлігійнага аскетызму.

Каб перадаць усю разнастайнасць, супярэчнасць, высокі напал пачуццяў, аўтар выкарыстоўвае эмацыянальна насычаныя стылістычныя сродкі — рытарычныя фігуры: рытарычнае пытанне (пытанне, у якім заключана сцверджанне. Такое пытанне не патрабуе адказу); рытарычны зваротак (эмацыянальна насычанае найменне асобы, да якой звяртаюцца) і рытарычны вокліч (выказванне, звычайна праз клічную інтанацыю, свайго эмацыянальнага напалу).

Вось як перададзены рытарычнымі фігурамі няўпэўненасць цёткі ігуменні ў выбары Ефрасінні: *«Чадо мое! Како могу се сотворити* [пастрыгчы Ефрасінню ў манашкі]... *А еще юна еси возрастом не можеши понести тяготы мнишескаго житіа* [манаскага жыцця].

А цяпер услухаемся, якую глыбіню журбы і любові нясуць словы бацькі Ефрасінні: *«Горѣ мнѣ, чадо мое! Почто се сотворила еси печаль души моеи принесе? Лютѣ мнѣ* [бяда мне], *чадо мое сладкое, жалости сердца моего и горѣ мнѣ, чадо мое милое!»*

Здаецца, немагчыма глыбей выказаць тугу, аднак аўтар знаходзіць словы яшчэ большай напружанасці, бо хоча перадаць пачуцці бацькі на пострыг і другой сваёй дачкі, Гардзіславы (Еўдакіі): *«Чадо мое милое, што се створила еси? Приложи мне сѣтования к сѣтованию* [бедаванне к бедаванню] *души моей и печаль к печали. ...Чадо мое, на се ли вас я родих* [ці для гэтага я вас радзіў]? *Или на се ли вас я милостиво спитал* [замілавана выхоўваў]*?»*.

Аўтар хоча сцвердзіць, што не жорсткасць Ефрасінні выклікала бацькаву тугу, а яе абранасць, самаахвярнасць. І для гэтага ён знаходзіць пераканальныя словы — тыя, якія, хоць і гераізавана, але выразна акрэсліваюць асобу, пранікнёна перадаюць рухі яе душы і сяганні духу. Пра гэта наша наступная гаворка.

ACADEMIA «NS»

Жывое слова

# Валавода

Слухаў неяк радыё: перадавалі «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча ў перакладзе Язэпа Семяжона.

Цудоўны твор! Цудоўны і пераклад! — Лёгкі верш, напеўная рытміка.

Добрае чытанне! Кожны радок афарыстычны, укладзены дакладна, як выліты ў форме. Нечаканыя, свежыя спалучэнні слоў — «тая кніжыца, як іжыца», «сказерыў вочы...»

Слухаць высокамастацкі твор, ды яшчэ ў выкананні Іллі Кургана, адна асалода. Нават знаёмыя, будзённыя словы ў гэтым творы гучаць свежа. Вось як гэтае — *валавода*. Гэтае слова я ведаю даўно, з маленства, але даўнавата яго не чуў. А тут пачуў, і прагучала яно для мяне неяк свежа, з якімсьці новым акцэнтам. Валавода! Якое ж яно мілагучнае, гэтае слова! Якая ў ім спеўнасць галосных: тры «а» паміж зычных, два «в» — «Ва-ла-во-да». Але ж не толькі гэтым прывабіла мяне згаданае слова.

«Валавода» — гэта ж наш славянска-беларускі адпаведнік запазычанаму слову «бюракрат»! А мы ім гэтак мала карыстаемся. А яно такое празрыстае, вобразнае, экспрэсіўнае! Яго ніяк не параўнаеш з словам «бюракрат». Скажаш пра чалавека: валавода — і ўсё ўсім зразумела!

Паміж іншым, нашым тлумачальным слоўнікам слова «валавода» не засведчана. Ёсць «валаводзіць», «валаводнік», «валаводзіцца», але няма «валаводы». Слова «валаводнік» патлумачана якраз так, як мы яго разумеем. Валаводнік — гэта той, хто валаводзіць, зацягвае вырашэнне якой-небудзь справы, сэнсава блізкае да гэтага слова і слоўнікавае гняздо словам валакіта — валакіта, валакітчык. Але яно, як мне падаецца, не такое музычнае, не такое экспрэсіўнае, як валавода.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЛАЧ** дзеянне паводле дзеяслова плакаць, а таксама гукі, якія суправаджаюць гэтае дзеянне), **РЫДА́ННЕ, ГАЛАШЭ́ННЕ, ПРЫЧЫТА́ННЕ і ПРЫЧЫ́ТВАННЕ** (плач з прыгаворваннем слоў жальбы), **РОЎ** размоўнае (плач, які суправаджаецца гучным голасам), **ВЫЦЦЁ** разм., узмацняльнае, **КРЫК** (плач уголас; звычайна дзіцячы), **ЛЯ́МАНТ** (моцны працяглы плач), **ЛЯМАНТАВА́ННЕ, РУ́МЗАННЕ** разм. (плач перарывісты, надакучлівы), **СКУГО́ЛЕННЕ** разм. (плач з ціхімі, жаласнымі гукамі), **СКАВЫТА́ННЕ** разм., зневажальнае, **ХНЫКАННЕ** (плач перарывісты, жаласны, з насавымі гукамі), **ХЛІ́ПАННЕ** разм. (ціхі плач з усхліпваннем), **ХЛІП** разм., **ХЛІПАТА́ННЕ** разм., **ХЛЮ́ПАННЕ** разм., **ХЛІ́МКАННЕ** разм., **УСХЛІ́ПВАННЕ** (ціхі плач з сутаргавым удыханнем паветра), **УСХЛІ́П, СЛІ́НЕННЕ** разм. (ціхі плач з пусканнем сліны), **ПІСК** разм. (плач тонкім голасам), **ВЕРАШЧА́ННЕ** разм. (вісклівы, надта гучны плач грудных дзяцей), **ВІШЧА́ННЕ** разм. (гучны плач з віскатам).

**Плач.**

У якасці адпаведнага сінанімічнага раду ў англійшчыне можна прывесці тры вытворныя назоўнікі адной і той жа структуры *дзеяслоў + суфікс* -ing: **crying, weeping, sobbing**. (Усе тры дзеясловы ўжо падаваліся раней як сінонімы да беларускага сінанімічнага раду «плакаць».) Гэтую мадэль утварэння ад дзеяслоўных назоўнікаў, вельмі прадуктыўную ў сучаснай англійскай мове, можна параўнаць з беларускімі аддзеяслоўнымі назоўнікамі з суфіксамі *-нн- (-енн), -энн.* Так, напрыклад, параўнайце англійскія сінонімы з беларускім хны**канне**, скугол**енне**.

**ПЛА́ШКА** (палавіна расколатага ўздоўж бервяна) *Хаты старыя, урослыя ў зямлю, пабудаваныя з шырокіх плашак старадрэўя* (Пестрак), **ПЛАШЧА́К** *Хаты ў гаспадароў былі больш-менш добрыя. Сустракаліся нават пяцісценкі з магутных сасновых плашчакоў* (Машара).

**ПЛЕ́СНЯ** (мікраскапічны грыбок у выглядзе пушыстага налёту розных колераў, які ўтвараецца на харчовых прадуктах, рэчах хатняга ўжытку, на жывёльных і раслінных рэштках пры пэўнай тэмпературы і вільготнасці), **ЦВІЛЬ, БРО́СНЯ** *Цяпер яна [дзірка на дрэве] зацягнулася бросняю, рана паволі зарубцоўвалася. Прырода брала сваё!* (Дамашэвіч) // (атмасфера застойнасці, праяўленне адмоўных з'яў у грамадскім жыцці, элементы разлажэння ў псіхіцы, ідэалогіі і пад.) *Ён [Пракоп] не бачыць плесні заскарузлага ў сваёй старадаўнасці вясковага жыцця* (Колас), *Ліліі маёй паэзіі цвітуць, цвітуць у бросні «краю роднага — выклятага богам», гаварыў сваім санетам Багдановіч, але ці доўга ім цвісці сярод «сонных луж балота»?* (Пойка).




У своеасаблівай, напісанай у форме празаічных радкоў, паэзіі француза Сэн-Жон Пэрса (1887—1975) існае паказваецца як няспынны працяг мінулага, як пераход у будучыню — выспяванне, прарастанне, абнаўленне. У той самы час чалавечае жыццё — гэта шуканні, валявыя высілкі, дзеянні...

*Сэн-Жон ПЭРС*

### Пятніца

Смех пад сонцам,
слановая косць! баязлівае кленчанне, прыгаршчы зямлі...
Пятніца, быў ты зялёным лістом, і твая цемната — навіна,
рукі доўгія — да зямлі, калі паблізу маўклівага чалавека
ты ішоў пад святлом блакітнага мігацення твайго цела.
— Цяпер табе падарылі чырвоныя рызманы. Ты п'еш алей
для лямпы і пракрадваешся ў камору; ты прагнеш спадніцы
бруднай і тлустай кухаркі, што пахне рыбай, ты ў захапленні
ад сваёй ліўрэі меднага колеру; круцельскі твой позірк,
і смех твой распусніцкі.

### Скураны парасончык

Ён у шэрым паху пылу, на палатках гары. Ён пад трохногім
сталом — гэта між скрыняй з пяском для кошкі і бочкай
са збітымі абручамі, дзе цесніцца пер'е.

### Лук

Перад ачагом, што шуміць, змерзнуўшы пад шырокім плашчом
у кветках, ты глядзіш, як варушацца пяшчотныя плаўнікі агню. —
Але трэск музычна расколвае цень: гэта твой лук з гукам цвіка,
што зламаўся; раскрываецца ён уздоўж сваёй патаемнай жылы,
як мёртвы струк у руках дрэва вайны.

### Зерне

У збанку ты яго хаваў, зерне пунсовае, што знайшоў у сваім
адзенні з казлінай скуры.
Яно не прарасло.

**Пераклад з французскай Любові ФІЛІМОНАВАЙ.**



# Беларускія гістарычныя анекдоты

У маладых гадах Кароль Станіслаў Радзівіл вельмі лянівa браўся за кніжную навуку, затое спрытна фехтаваў з прыслугай кіем, скакаў на драўляным коніку і нават страляў з дзіцячай фузеі па падкінутых у паветра яйках. Князь-бацька, зразумела, клапаціўся, каб нашчадак умеў не толькі гэта, але і крыху болей. Таму ён абвясціў, што ўзнагародзіць двума фальваркамі таго, хто навучыць сына чытаць і пісаць.

Узяўся за гэтую справу мясцовы шляхціц Пішчала. Падабраўшы для юнага князя яшчэ двух аднагодкаў, Міхася Валадковіча і Міхася Рэйтана, гэты «педагог» заявіў бацьку, што без ніякага прымусу хлопцы авалодаюць пачатковымі ведамі.

На вялікай драўлянай табліцы Пішчала напісаў крэйдай алфавіт. Паставіўшы вучняў на дзесятак крокаў ад табліцы з зараджанымі стрэльбачкамі, ён, паказаўшы літару, адпаведна даваў каманду страляць у яе. Калі азбука была засвоена, прыступілі да трапных стрэлаў, з якіх складаліся словы, а потым снайперскае майстэрства дайшло да цэлых сказаў. Падобная методыка была прыменена і для арыфметыкі.

**Л.КАЗЛОЎ.**

**Беларускае адраджэнне**

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# Залаты век старабеларускай мовы



На XV—XVII стагоддзі прыпадае перыяд росквіту — «залаты век» старабеларускай мовы.

Славуты наш зямляк Адам Міцкевіч, а таксама і Максім Багдановіч знаходзілі ў беларускай мове найбольш першабытных агульнаславянскіх рысаў. Кутком былога славянства, забытай даўніны называюць вучоныя Беларусь, яе гаворка данесла ў найбольшай захаванасці рэшткі старажытнай мовы. У сувязі з гэтым асаблівай увагі заслугоўвае праблема пазычанняў у старабеларускай мове. У сучасным мовазнаўстве ўсё больш і больш пашыраецца погляд, што пазычванне з'яўляецца не сведчаннем занападу мовы, а, наадварот, паказчыкам эвалюцыі, адзнакай узросшых патрабаванняў да яе, вынікам больш высокай ступені развіцця культурна-палітычнай і грамадска-гаспадарчай сфер жыцця.

Да таго ж, беларуская моўная сістэма валодае выдатнай унутранай жыццяздольнасцю, яна ніколі не падаўлялася, як памылкова мяркуюць, уплывам польскай, сербскай або расійскай моў, а, наадварот, паглынала гэты ўплыў, арганічна пераўтварала яго ў сабе.

Гэтая адметная самаахоўная здольнасць нашай мовы давала падставу беларускім культурным дзеячам адстойваць «за ёй права на існаванне як органа духу», сродка зносін аднаго са старажытных славянскіх плямёнаў.

Сёння ўжо мала калі і прыгадваецца перыяд плённага ўплыву беларускай кніжнасці, у прыватнасці старабеларускіх лексіконаў і граматык, на працэс станаўлення літаратурных моў нашых суседзяў.

Вядомыя славянскія будзіцелі чэх Йозеф Добраўскі і славенец Ватраслаў Копітар натхнёна вывучалі старабеларускую лексікаграфічна-граматычную спадчыну і шырока выкарыстоўвалі набытыя веды ў сваіх навуковых працах. Напачатку нават польская культурная эліта, выхаваная на ўзорах славянскага, пераважна чэшскага этыкету, з вялікай пашанай ставілася да ўсяго беларускага, бо, як сведчыць Й.Первольф, у Еўропе XV—XVII стагоддзяў прыкметай вышэйшага тону было дасканалае валоданне чэшскай і беларускай мовамі.

Думаецца, таксама аднабакова сучаснымі даследчыкамі разглядаецца працэс узаемадзеяння беларускай мовы з польскай. Нашу мову чамусьці прынята лічыць за мову пазычальніцу.

У той час як у XV—XVII стагоддзях для дзеячаў польскай культуры характэрна захапленне багаццем беларускай мовы, якую яны разглядалі як патэнцыйную крыніцу папаўнення слоўніка сваёй мовы. Так, нават Грыгорый Кнапскі, складальнік польска-лацінска-грэцкага слоўніка (1621), які рэзка крытыкаваў непатрэбнае ўвядзенне ў польскую мову чужых слоў, рабіў выключэнне для славянскіх моў як блізкароднасных і сам увёў у слоўнік шмат беларусізмаў. За ўзбагачэнне нацыянальнай мовы коштам славянскіх пазычанняў, роднасць якіх тады яшчэ асабліва адчувалася, выказаўся таксама вядомы польскі пісьменнік другой паловы XVI стагоддзя Лукаш Гурніцкі, які знаходзіў сваю мову яшчэ даволі «мала апрацаванай». І гэтым недахопам слоўнікавага матэрыялу, на яго погляд, вельмі стрымліваўся палёт думкі, ніверлiраваліся тонкія адценні і эмоцыі пры выказванні.

Цеснае ўзаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне, якое і надалей адбывалася паміж беларускай і польскай мовамі, мела, у прыватнасці, шчаслівым вынікам тое, што праз пасрэдніцтва польскай у беларускую ўвайшло шмат лексікі з Заходняй Еўропы, а, у сваю чаргу, беларуская мова спрыяла прынікненню праз польскую мову на захад лексікі грэцкай, паўднёва- і ўсходнеславянскай. Лацінскія пазычанні старабеларускай мовы прыпадаюць на эпоху Адраджэння.

Лацінізацыя беларускай мовы была прадыктавана грамадскімі і культурнымі функцыямі латыні як мовы заходнееўрапейскай адукацыі ды навукі і, нарэшце, як мовы дыпламатычнай перапіскі. Цікавасць да раннехрысціянскай, святаайцоўскай традыцыі, характэрная для эпохі Рэнесансу, у сваю чаргу, выклікала імклівае вывучэнне візантыйскай, усходнехрысціянскай традыцыі, і пасрэднікам у гэтым працэсе выступіла найперш Вялікае Княства Літоўскае, старабеларуская мова, а ўжо ў меншай ступені поўнач і поўдзень Еўропы, былыя правінцыі Візантыі.

У расійскай традыцыі на працягу XV—XVII стагоддзяў выявілася імкненне да асабліва актыўных кантактаў з філалагічнай культурай «Паўднёва-Заходняй Русі». Асаблівым аўтарытэтам сярод расійскіх лексікографаў карысталіся «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста», «Лексіс Л.Зізанія,», «Сіноніма славенароская», якія паслужылі першымі ўзорамі для стварэння адпаведных перакладных слоўнікаў у Маскоўскай дзяржаве. А «Лексіс» Л.Зізанія заставаўся ў навуковым ужытку яшчэ ў XIX стагоддзі; вядомым тагачасным філолагам І.П.Сахаравым нават была зроблена спроба выправіць яго пад помнік велікарускай пісьменнасці. Славутая «Граматыка» М.Сматрыцкага стала «вратами учёности», як адзначаў М.В.Ламаносаў, для ўсіх славянскіх народаў.

Вядомы гісторык XIX ст., адзін з актыўных членаў Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства, М.І.Кастамараў так піша пра аўтарытэт старабеларускай мовы: «Якой значнай не была непрыязь да ўсяго польска-літоўскага ў «смутныя» часы, як толькі было абвешчана аб каранізацыі Уладзіслава, многія велікарускія дваране пачалі ў лістах сваіх і афіцыйных паперах пісаць паўрускай мовай, збіваючыся на заходнерускі лад гаворкі».

Складаная моўная сітуацыя ў Маскоўii, выкліканая існаваннем дзвюх пісьмовых моў, расійскай і царкоўнаславянскай, вымушала тагачасных кніжнікаў звяртацца да вопыту старабеларускай мовы, што паспела ўжо дасягнуць значнай літаратурнай упарадкаванасці, дастаткова арганічна спалучыўшы ў сабе кніжную і размоўную лексічныя плыні.

Відаць, у «залаты век» старабеларускага пісьменства Заходняя Еўропа і пазнаёмілася з многімі помнікамі духоўнай культуры ВКЛ, і вельмі часта ў Еўропе ў той час можна было сустрэць кнігу, на якой было пазначана: перакладзена з «бѣлороссийскаго языка».

*Да 200-годдзя Яна Чачота*

# ПАЧЫНАЛЬНІК

Ян Чачот— першы выдатны беларускі паэт, пачынальнік новай беларускай літаратуры, яркая зорка нашага нацыянальнага адраджэння. У цёмную ноч прыгонніцтва, калі фанабэрыстае панства, нічым не жадаючы быць падобным да «мужыка»-беларуса, амаль цалкам выраклася мовы роднай зямлі і перайшло — у побыце і ў друку — на «панскую» польскую мову, Ян Чачот, рашуча стаўшы на бок свайго народа, пачаў ствараць літаратуру якраз на гэтай пагарджанай, зганьбаванай апалячанымі прыгоннікамі роднай беларускай мове. Гэта была падзея невымернай важнасці — упершыню пасля двухсотгадовага маўчання са старонак добра аформленых друкаваных кніг на ўвесь голас загучала жывое беларускае слова. Два фальклорныя зборнікі Яна Чачота (1844 і 1846 гадоў) з яго ўласнымі беларускімі вершамі яскрава засведчылі факт нараджэння новай беларускай літаратуры і адначасова выхад на гістарычную сцэну аднаго з самабытных і вялікіх славянскіх народаў. Гэты подзвіг паэта высока ацаніў у 1914 годзе ў артыкуле «Беларускае адраджэнне» Максім Багдановіч, паставіўшы Яна Чачота на чале беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў.

Такая высокая ацэнка творчасці Яна Чачота, трэба заўважыць, давалася ў той час, калі не былі вядомыя яшчэ больш важныя творы паэта — яго поўныя маладога шалу, вельмі папулярныя сярод філаматаў беларускія студэнцкія вершы і песні, якія ўпершыню ўбачылі свет толькі ў 1924 годзе (праз стагоддзе пасля напісання!), яго выключна цікавыя, заснаваныя на беларускіх народных паданнях рамантычныя балады, што зрабілі вялікі ўплыў на Адама Міцкевіча (апублікаваныя яны былі ўжо ў наш час — у 1972 годзе), урэшце, надзвычай важныя для нас Чачотавы «Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года» — своеасаблівая гісторыя старажытнай Беларусі ажно ў 55 песнях-баладах, якія толькі ў 1994 годзе былі апублікаваны асобнай кнігай у Вільні (на польскай і летувіскай мовах). Чакае сваёй публікацыі і знойдзены фалькларысткай Л.А.Малаш цэлы збор невядомых дасюль беларускіх народных песень на мове арыгінала, запісаных калісьці Янам Чачотам. Па сутнасці мы ўсё яшчэ адкрываем гэтага падзвіжніка нашага адраджэння, які паўстае перад намі ўсё новымі і новымі гранямі.

24 чэрвеня 1996 года спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння Яна Чачота. Ягоны юбілей — добрая нагода па-гаспадарску агледзець і асэнсаваць немалую творчую спадчыну паэта, ва ўсёй велічы раскрыць яе перад шырокай грамадскасцю, вярнуць яму належнае месца ў гісторыі нашай культуры.

Для ўшанавання памяці нашага выдатнага паэта-дэмакрата створаны Арганізацыйны камітэт па святкаванні 200-х угодкаў Яна Чачота. У склад Аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі Міністэрства культуры, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор», Асацыяцыі фалькларыстаў, Карэліцкага райвыканкама, дзеячы навукі і культуры. Старшынёй Аргкамітэта выбраны Кастусь Цвірка.

На сваім пасяджэнні Аргкамітэт намеціў цэлы шэраг мерапрыемстваў, звязаных са святкаваннем юбілею. У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі ў Менску павінен адбыцца ўрачысты вечар, прысвечаны Яну Чачоту. У Карэлічах будзе арганізавана спецыяльная навуковая канферэнцыя пад назвай «Карэліцкія чытанні», а ў вёсцы Малюшычы, месцы нараджэння паэта, пройдзе галоўнае свята з удзелам калектываў мастацкай самадзейнасці Карэліцкага, Навагрудскага і Ляхавіцкага раёнаў. На азёрнай жа Лепельшчыне, дзе жыў паэт пасля царскай ссылкі і дзе запісваў народныя песні, плануецца наладзіць у яго гонар свята Купалле. Да юбілею паэта рыхтуюцца да друку кніга выбраных твораў Яна Чачота, песні Станіслава Манюшкі на яго словы. Мяркуецца таксама выпусціць юбілейныя паштоўкі, марку, канверт з выявай паэта, адкрыць бюст Яну Чачоту ў Карэлічах. На тэлебачанні і радыё будуць падрыхтаваны перадачы пра яго жыццёвы і творчы шлях, у газетах і часопісах знойдуць месца публікацыі пра паэта. У нашых галоўных бібліятэках да 200-годдзя адкрыюцца тэматычныя выставы кніг і публікацый. Адна з вуліц у Карэлічах будзе названа імем Яна Чачота. Арганізуецца паездка ў вёску Ротніца пад Друскенікамі на магілу паэта. У Вільні сумесна з летувіскімі сябрамі будзе наладжаны вечар памяці Яна Чачота.

З пытаннямі арганізацыі 200-гадовага юбілею Яна Чачота просім звяртацца да старшыні Аргкамітэта (т. 63-99-46) альбо да выканаўчага сакратара — Генадзя Вінярскага (220034, Менск, вул.Фрунзе, 5, Дом літаратара, тэл. 36-09-09).

**Аргкамітэт.**

**Творчасць нашых чытачоў**

Уладзімір ЗДАНОВІЧ,
«Настаўнік года-95»

## Маё хобі

Бог захаваў мяне ад захаплення паляваннем, рыбалоўствам, футболам. І дзякую Яму за гэта, бо вельмі ж многа яны патрабуюць часу, сродкаў, ды і спакою ў сям'і не вельмі спрыяюць. Для майго ж хобі шмат не трэба: калі дзеці, набегаўшыся за дзень, засынаюць, а жонка абкладаецца стосам сшыткаў і пачынае іх правяраць, у мяне ёсць колькі вольных хвілін, я бяру чысты аркуш паперы, аловак, і неяк самі па сабе з'яўляюцца радкі аб тым, што запала ў душу, усхвалявала ў апошні час.

Хачу пазнаёміць чытачоў «Нашага слова» з дзвюма невялічкімі замалёўкамі з маёй калекцыі.

## Адукацыя

«...Я іду па дарозе ад інтэрната да метро, што каля Камароўскага рынку. Побач са мной у тым жа напрамку шыбуюць дзесяткі людзей. У мяне цудоўны настрой. І таму ёсць прычына: я вытрымаў экзамен па педагогіцы. У галаве яшчэ круцяцца фрагменты ўдалых адказаў на пытанні аб разумным, вечным, добрым, прыгожым; успамінаюцца ўсмешкі і віншаванні выкладчыкаў і сяброў. Ды і наогул, ці можа быць дрэнны настрой, калі на вуліцы вясна?..

Здалёк заўважаю значны па памерах аркуш газеты, які гарэзлівы вецер то падымае над тратуарам, то шпурляе долу. Міжволі кідаецца ў вочы напісаны вялізнымі літарамі загаловак нейкага артыкула. Паспеў прачытаць толькі адно слова «Адукацыя«, як раптам наступны парыў ветру перавярнуў паперу на адваротны бок, змяў, імкліва пранёс па-над асфальтам і апусціў у брудную лужыну...

Чамусьці ў прыгожы вясновы дзень аднаму чалавеку стала сумна, але людзі не заўважылі гэтага. Яны спяшаліся да рынка...»

## Мова

«...Жонцы падабаецца мексіканскі серыял «Трапіканка». Дзеці часам таксама прысутнічаюць пры праглядзе. Праз некаторы час заўважыў, што малодшая дачка неяк дзіўна пачала звяртацца да нас: «папі», «мамі» замест звычайных «тата» і «мама». Ну, як жа, па-замежнаму ж цікавей. Адчуваю сябе ніякавата, але нічога не кажу, прыглядаюся...

Прайшло колькі дзён і раптам: «Тата, татачка, мяне пчала ўкусіла», — з плачам бяжыць да мяне малая... Выцягнуў джала, прыклаў лісток дзьмухаўца, прылашчыў, супакоіў. Неяк недарэчы мільгнула думка: «Чужое то цікавае, але роднае больш спагадлівае...»

# Каляндар прысвячаецца Яну Чачоту

Выйшаў з друку беларускі насценны каляндар, прысвечаны двухсотым угодкам з дня нараджэння Яна Чачота, выдадзены высілкамі Міжнароднага фонду «Беларускі кнігазбор». Каляндар надрукаваны на добрай паперы ў колеры. У цэнтры змешчаны партрэт Яна Чачота, спецыяльна адрэстаўраваны пры падрыхтоўцы календара мастаком Віктарам Сташчанюком, па адзіным фотаздымку паэта, што захаваўся. Па абодвух баках партрэта змешчаны Міцкевічава і Багушэвічава выказванні пра Чачота. Падаецца спіс юбілеяў беларускіх асветнікаў і пісьменнікаў, якія прыпадаюць на 1996 год. Каляндар можа быць карысным настаўнікам беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, студэнтам філфакаў ВНУ, а таксама шырокім колам прыхільнікаў беларушчыны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# «Юнацтву» — 15!

(Заканчэнне . Пачатак на с.5.)

выдаецца ўпершыню ў гісторыі нацыянальнага кнігавыдання. Убачаць свет два тамы нашага адметнага багацця — твораў вуснай народнай творчасці — «Свяці, свяці, сонейка» (паўторна) і «Не сілай, а розумам».

На́ры кнігі папоўніцца таксама унікальная трыццацітомная «Біблія эка замежнай дзіцячай літаратуры». Гэта: Корчак Я. «Кароль Мацюсь...», аповесці, Андэрсен Х.К. «Снежная каралева», казкі і «Хрустальны калодзеж», казкі народаў Еўропы.

Сярод навукова-пазнавальнай літаратуры варта назваць штогоднікі «Бацькаўшчына» і «Эўрыка», кнігі А.Марціновіча «Зерне да зерня», эсэ, нарысы пра дзеячаў беларускай літаратуры, культуры і навукі, А.Краўцэвіча «Вялікі князь Вітаўт», А.Русецкага «Дзень за днём». Народны каляндар, М.Гелера «Калі забуду цябе, Іерусалім...», нарыс, а таксама кніжкі для самых маленькіх — «Знайка», «Агародніна», «Дзівосны свет».

Для малодшых школьнікаў выйдзе чытанка «Пралеска», выдатна укладзеная А.Сачанкам.

Багата прадстаўлены ў кнігах усе жанры фальклору для дзяцей. Тут і «Заклятае возера», беларускія народныя казкі, і «Вужовы кароль», легенды і паданні, апрацаваныя У.Ягоўдзікам, і «На тычынцы гарадок», загадкі, і «Сказаў як звязаў», прыказкі, прымаўкі, і «А ты, коцік, не хадзі», песенькі, калыханкі, лічылкі, забаўлянкі.

Шырока і разнастайна прадстаўлена ў плане сучасная беларуская дзіцячая літаратура. Проза — творамі З.Бядулі, М.Лынькова, І.Сяркова, Я.Сіпакова, І.Навуменкі, І.Шамякіна, П.Ткачова, Я.Пархуты, Р.Баравіковай, М.Зарэмбы, А.Вольскага, М.Гайдука, П.Васючэнкі.

Паэзія — творамі Я.Купалы, К.Крапівы, П.Броўкі, П.Глебкі, М.Танка, Р.Барадуліна, В.Віткі, В.Зуёнка, В.Лукшы, Э.Агняцвет, У.Паўлава, К.Камейшы, М.Маляўкі і іншых творцаў.

Складаная сітуацыя зараз у кнігавыданні, падае попыт на беларускамоўныя выданні, аднак спадзяемся, што дзякуючы дзяржаўнай фінансавай падтрымцы, плённаму супрацоўніцтву з паліграфістамі, кнігагандлярамі, настойлівай працы калектыву выдавецтва нашы планы ўдасца ажыццявіць. Што «Юнацтва» вытрымае ўдары жорсткіх жыццёвых хваляў, не згубіць залатога ключыка духоўнасці, унясе важкі ўклад у нацыянальнае адраджэнне, узвышэнне роднага слова.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва», пісьменнік.**

## У нас у гасцях — мастакоўская сям'я: Алег Карповіч, мастацкі рэдактар газеты «Свободные новости плюс», Алена Карповіч, выкладчыца мастацкага ліцэя, і Паўлік Карповіч, навучэнец 5-га класа названага ліцэя.

***Мы папрасілі трох мастакоў адказаць на некалькі пытанняў:***

**1) Ваша творчае крэда?**

**Алег Карповіч.** Сам я з галавы да пят улез у так званае сучаснае мастацтва, на сабе адчуў усю «прыгажосць» жыцця ў ім; і так званае «братэрства па цэху», у якое некалі верыў, і адносіны да мастацтва «властьпредержащих» (якое выражаецца ў лепшым выпадку нерэагаваннем, за што амаль і малюся ўжо на сённяшнюю ўладу, ужо за гэта ўдзячны ёй). Няхай іншыя малююць кветкі і Маці Боскую, няхай жывуць у крыху выдуманым імі самімі свеце. Праўда, часам і сорамна: здаецца, нядрэнны «работяга» і працую па 10—12 гадзін у суткі без выхадных, а, акрамя інтэрнацкага пакоя, ні на што зарабіць не магу.

**Алена Карповіч.** Я заўсёды была супраць зняважлівага тэрміна «жаноцкае мастацтва». Мастацтва ёсць мастацтва, і галоўны яго крытэрый — як яно ўплывае на чалавека, якія пачуцці абуджае. Мо́жа быць, важна і тое, што жанчына бярэцца за пэндзаль, адарваўшыся ад клопатаў ля пліты, ля дзіцяці, ад мыцця мужніных шкарпэтак? Можа, згодна закона раўнавагі, чым складанейшы твой побыт, тым адчувальней патрэба ў пяшчоце і мяккасці. Відаць, гэта ж атрымалася і ў нашай сям'і. Чым вастрэй праблемы, узнятыя ў работах Алега, тым мякчэй кладзецца ў маіх малюнках акварэль.

**Паўлік Карповіч.** А мне хочацца ў мастацтве, як і ў марах, быць вышэй за ўсіх. Я ўяўляю сябе з мячом у руках, я лячу па небе, са мной арол, унізе вада...

**2) Як бы вы намалявалі адзін аднаго?**

**Алег Карповіч.** Ёсць у мяне нейкія забабоны... Каб не сурочыць жонку Алену і сыночка Паўліка, ніколі не малюю іх з натуры. Хаця, як заўважыў Віця Казлоў, мастацкі рэдактар часопіса «Маладосць», як толькі пачынаю маляваць жанчыну, абавязкова атрымліваецца партрэт Алены, а як дзіця — дык Паўліка. Можа, гэта і добра, можа, так яно і павінна быць, не ведаю. У адным упэўнены, пры такім бацьку, як я, сям'я трымаецца не на грашах, а на нечым іншым.

**Алена Карповіч.** Кожны раз, калі спрабую маляваць Алега, атрымліваецца адвольнае рамантычнае сачыненне на тэму мужа. У маёй «моцнай паловы» хранічна не хапае часу, нават каб нерухома пасядзець некалькі хвілін, таму ў маіх малюнках больш адчуванне Алега, а не ён сам.

**Паўлік Карповіч.** Я б намаляваў нас усіх разам у вялікай машыне без колаў. Яна едзе па дарозе, а дарога ружаватая. Тата сядзіць на спінцы крэсла, я ў яго на плячах, а мама ззаду сядзіць і сабаку гладзіць.






**3) Якія ўражанні ад старога года, што чакаеце ад навагодняга свята?**

**Алег Карповіч.** Што было ў старым годзе? Праца, праца, праца. Мастаком быць заўсёды цяжка. А калі ў сям'і тры мастакі? Разумныя людзі кажуць: «Алег, табе не мастацкім рэдактарам працаваць трэба, а працаваць толькі творча. Ты ж мастак!» А я б і рады, але... Трэба карміць яшчэ двух мастакоў, а я ж, як карыкатурыст, чалавек апазіцыйны любой уладзе, якая б ні прыйшла (праца ў мяне такая). Павінен крыж свой цягнуць ды пра сябе маліцца: «Дай, Божа, беларусам разумнай, адукаванай, культурнай улады, і няхай Караткевіч хоць раз ды памыліцца, пры ўсёй маёй павазе да яго таленту».





**Алена Карповіч.** Галоўная каштоўнасць навагодняга свята — гэта адчуванне, што ўсё табою зроблена. Ёсць магчымасць спыніцца, няхай толькі на кароткі час навагодняй ночы, адчуць цішыню і спакой, калі ўсе хатнія дома, калі, здаецца, ніякіх праблем. Ну, і няхай заўтра ўсё пачнецца зноў: клопаты, мітусня, беганіна, але зараз, у гэтую ноч, цеплыня, цішыня і спакой.

**Паўлік Карповіч.** А для мяне самы запамінальны Новы год быў, калі бабуля пераапранулася Дзедам Марозам, я вырашыў, што гэта сапраўдны Дзед Мароз, і схаваўся ад яе ў другім пакоі.

### «Вось яна, слава!»

Аўтапартрэт Алега Карповіча ў атачэнні малюнка Алены Карповіч. Калаж рэдакцыі.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 8541

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад [illegible] паасобнікаў.
Падпісана ў друк 2.01.1996 г.
у 15 гадзін.